ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 8 (1606) ГОД XXXII БЕЛАСТОК, 22 ЛЮТАГА 1987 г. ЦАНА 12 зл.



Урок беларускай мовы ў пятым класе ў бельскай „тройцы".

## ПАМАГАЕ ЦІ ПЕРАШКАДЖАЕ?

Здаралася мне чуць, што навучанне беларускай мовы можа быць перашкодай дзіцяці ў вучобе, не дазволіць яму атрымаць добрыя вынікі па іншых прадметах. Апошнім часам я сутыкнулася з гэтай з'явай у Гайнаўцы. На сустрэчы ў адной з гайнаўскіх школ я запытала дзяцей, хто не вывучае, а хацеў бы вывучаць беларускую мову. Паднялося некалькі рук.

— Дык чаму ж ты не ходзіш на заняткі беларускай мовы? — пытаюся я ў хлопчыка, які падняў руку вельмі рашуча.

— Мне мама не дазваляе, — сказаў ён па-беларуску. — Бо тата кажа, што гэта будзе перашкаджаць мне ў вучобе па іншых прадметах.

Хлопчык гэты вучыцца ў другім класе, часта наведвае бабулю, якая жыве ў беларускай вёсцы недалёка ад Гайнаўкі. Там ён навучыўся гаварыць па-беларуску, спяваць беларускія песні. Заспяваў адну нам на сустрэчы. Дзіця сэрцам чуе патрэбу не парываць з мовай бабулі і дзядулі. Настаўніца абяцала пагаварыць з яго бацькамі.

А як жа сапраўды, памагае ці перашкаджае беларуская мова дзецям вучыцца?

Можа, частцы чытачоў гэтае пытанне здаецца дзіўным ці нават не на месцы, але, калі яно ўжо было пастаўлена, дык варта над гэтым задумацца. Маю надзею, што большасць чытачоў сама знойдзе правільны адказ. А я, для прыкладу, раскажу аб найбольшай школе, у якой усе дзеці (больш сямісот) вывучаюць беларускую мову. Гэта — падставовая школа № 3 у Бельску. Усе жыхары горада і яго ваколіцы ведаюць, што калі запісваюць сваё дзіця ў гэтую школу, дык дзіця будзе вучыцца беларускай мове. Калі хто не хоча гэтага, дык запісвае дзіця ў іншую школу. І ва ўсёй гісторыі школы не здарылася, каб у школу запісалася замала вучняў. Найчасцей клопаты былі з прыняццём усіх ахвотных. Два гады назад школе ўдалося гаспадарчым спосабам і пры значнай дапамозе бацькоў дабудаваць адзінаццаць лекцыйных залаў з вялікімі прасторнымі калідорамі, што дало магчымасць у верасні 1985 года прыняць у школу ўсіх ахвотных.

Дык вось гэтая школа, дзе ўсе дзеці вучацца беларускай мове, у мінулым навучальным годзе ў куратарыйным конкурсе заняла першае месца ў ваяводстве па ўзроўню навучання і пазалекцыйнай працы. Пры ацэнцы браліся пад увагу дасягнутыя школай вынікі ў прадметных конкурсах і ў мастацкай дзейнасці.

Не гаворачы ўжо аб вядучых месцах ва ўсіх беларускіх конкурсах для школьнай моладзі, якія арганізуе Куратория супольна з Беларускім таварыствам (аб гэтым шмат пісала „Ніва" ў справаздачах з конкурсаў беларускай песні, дэкламацыі ці тэатральных калектываў), прыгадаю некалькі вынікаў.

Вучаніца бельскай „тройкі" **Аня Тамашук** заняла першае месца ў ваяводстве ў конкурсе па польскай мове і літаратуры, а яе сяброўка па школе **Ева Выркоўская** — пятае месца. Падкрэсліваю: **першае і пятае месцы па польскай мове.**

Па рускай мове ў ваяводскім конкурсе **Галіна Карыцкая** заняла **першае месца**, а яе сяброўкі **Ева Кавальчук — чацвёртае, Эля Томчук — пятае, а Дарота Бабулевіч — шостае** месцы.

**Трое** вучняў гэтай школы сталі лаўрэатамі ваяводскай алімпіяды **па фізіцы, пятае** месца занялі **па матэматыцы** і **гісторыі.**

У мастацкіх конкурсах: **трэцяе** месца ў ваяводстве заняў **школьны хор** (63 спевакоў) пад кіраўніцтвам настаўніцы **Галіны Наумчук; першае** месца ў конкурсе **гарцэрскай песні** заваявала **Яся Кудзіна**, добрыя вынікі былі дасягнуты ў конкурсах ТППР, ЗСМП і ў цэлым шэрагу спартыўных спаборніцтваў.

Адным словам, у кожным мерапрыемстве школа паказвае свой высокі ўзровень у навучанні і ў выхаванні моладзі. У такую школу бяльчане з ахвотай запісваюць сваіх дзяцей і цешацца разам з настаўнікамі іх дасягненнямі.

Ці ж можна ў такіх умовах гаварыць аб нейкім перашкаджанні аднаго прадмета другому?

(Працяг на стар. 5)

## АБ ЗАВОЧНЫМ НАВУЧАННІ НА БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства паведамляе, што існуе магчымасць рэактывавання завочнага аддзялення беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце. Міністэрства навукі і вышэйшай адукацыі ў пагадненні з уладамі Варшаўскага універсітэта, прыхіляючыся да пастулатаў БГКТ, згаджаецца адкрыць завочную студыю тады, калі прынамсі на працягу двух чарговых гадоў будзе мець месца набор кандыдатаў у ліку не меншым, чым 10 асоб на кожным курсе. У сувязі з тым, з'яўляецца магчымым адкрыць завочную беларускую філалогію ўжо ў наступным навучальным годзе. Звяртаемся да ўсіх тых, якія хочуць паглыбляць свае веды па беларусазнаўству, а асабліва да настаўнікаў беларускай мовы з прапановай паступіць на завочнае аддзяленне беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

Хочам ведаць ужо цяпер, колькі асоб хоча стаць студэнтамі завочнікамі беларускай філалогіі. Таму просім высылаць заявы ў тэрміне да 15 сакавіка 1987 г. па адрасу: Uniwersytet Warszawski, Wydział Rusycystyki i Lingwistyki Stosowanej, Katedra Filologii Białoruskiej, 02-678 Warszawa, ul. Szturmowa 3.

Прыгадваем, што навучанне на завочным напрамку прадаўжаецца 5 гадоў, а выпускнікі атрымліваюць дыпломы магістра беларускай філалогіі з дадатковай спецыялізацыяй — руская філалогія.

**Галоўнае праўленне БГКТ**

## „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-87"

У суботу, **28 лютага г.г.**, у Беластоцкай філармоніі, вул. Падлесная 2, а 11-ай гадзіне пачнецца **цэнтральны агляд** конкурса **„Беларуская песня-87".**

У нядзелю, **1 сакавіка** г.г., адбудуцца два канцэрты самых лепшых салістаў, дуэтаў і калектываў — лаўрэатаў цэнтральнага агляду. Пачатак канцэртаў а **14.00 і 17.00 гадз.**

Білеты ўжо прадаюцца ў Галоўным праўленні БГКТ, вул. Варшаўская 11, тэл. **317-18.**

## выказванні

### ВАСІЛЬ БЫКАЎ:

**Розніца паміж нацыяналістам і патрыётам**

Патрыёт любіць свой народ, сваю Радзіму, культуру і з павагай адносіцца да культуры суседзяў. А нацыяналіст не так любіць сваё, як ненавідзіць чужое — чужы народ, чужую мову, чужую культуру.




## Аб узбагачэнні (3)

Хто са старэйшых не памятае гадоў 1980-81, калі практычна не было і аднаго тыдня, у якім не баставалі б дзесяткі тысяч, сотні тысяч, а то і мільёны. Зразумела, што нельга ашукаць эканамічных законаў. Калі няма працы, дык няма прадукцыі, калі няма прадукцыі на фабрыках, няма тавараў на полках у магазінах, калі няма ў магазінах, дык няма і на стале ў хатах. Вось гэтая, здавалася б так простая, што нават і дзецям зразумелая логіка, не была ў тыя гады зразумелая мільёнам. Памятаю, як праз усю Польшчу паўзла недарэчлівая плётка: урад усё мае на складах, але не хоча даваць народу. Калі народ пры дапамозе забастовак і іншых форм супраціву прыцісне дзяржаву — дзяржава дасць, бо ўсяго мае пад дастаткам. Зразумела, што тыя палітыканы, якія гэта гаварылі, ведалі, што гэта няпраўда. Яны, аднак, кіраваліся простым прынцыпам: чым горш — тым лепш. А народны натоўп? Ён аднолькавы ва ўсім свеце. Верыць ва ўсякага роду наіўнасці. Памятаю шырока распаўсюджаныя плакаты, на якіх была паказана пустая талерка са скрыжаванай відкай і нажом. Да чаго давялі забастоўкі — ведаем. З кожным днём пагоршвалася гаспадарчая сітуацыя. Была ўведзена картачная сістэма на цукар, мяса, масла, боты, мыла, запалкі, бензін, гарэлку. Сітуацыя з дня на дзень пагоршвалася. У магазінах на полках красаваўся толькі воцат, пасля прапаў і ён. Здавалася, што нават дзіця павінна было зразумець, што толькі спыненне забастовак і дэманстрацый ды салідная праца можа палепшыць умовы, аднак грамадскасць у большасці выпадкаў рабіла зусім супрацьстаўныя вывады — увогуле не думала працаваць.

Грамадства як бы кіравалася ідэалогіяй заходніх краін, аднак пайшло ў напрамку зусім супрацьстаўным у параўнанні з заходнееўрапейскімі народамі. Вядома, што тыя народы ўжо даўно адвярнуліся ад усякай містыфікацыі наіўнага рамантызму, крайняй пачуццёвасці, клерыкалізму і фанатызму, метафізікі і ўзброіліся ў рацыяналізм, дысцыплінаванасць, працавітасць, эканамічную калькуляцыю. Наша грамадства, на жаль, гэтых заходнееўрапейскіх рэаліяў не ўзяло пад увагу. Трымаючыся з усіх сіл містыфікацыі, наіўнага рамантызму, містыцызму, клерыкалізму, месіянерства, адным словам, тых каштоўнасцей, якія могуць быць добрым фундаментам пад паэзію, а не пад добрае матэрыяльнае жыццё.

Вядома нам усім, якія былі выкарыстаны метады для таго, каб паўстрымаць грамадства ў яго галопе ў бок прорвы. Людзі былі вымушаны працаваць. Аднак вядома, што якасць нашай працы наогул не вельмі добрая. Не ведаю, ці ўсе памятаюць аб тым, што калі край наш прыступаў да рэформы, пачаў паяўляцца тэзіс аб тым, што ў нас паявіцца армія беспрацоўных. У сувязі з гэтым многія прадпрыемствы пачалі заахвочваць сваіх пяцідзесяцігадовых, часта дасканалых спецыялістаў, каб ішлі на пенсію. З такіх заўчасных пенсій скарысталі сотні тысяч рабочых. І што аказалася? Аказалася, што практычна амаль усюды не хапае рабочых. Бывае часта так, што тысячы рабочых месцаў чакаюць рабочага.

Хацелася б мне сёння сустрэцца з тымі гора-прарокамі сярод эканамістаў, якія набаялі такую бязглуздзіцу. А

(Працяг на стар. 6)






### СТАН СЦЭНІЧНАГА МАСТАЦТВА

13-14 студзеня праходзіў VIII з'езд Беларускага тэатральнага аб'яднання. Як адзначае „ЛіМ", вядучыя майстры тэатра рэспублікі прааналізавалі стан сучаснага беларускага сцэнічнага мастацтва. Стан нецікавы. — Сёння „беларускі тэатр" — хутчэй тэрытарыяльнае азначэнне, — гаварыў, між іншым, на з'ездзе галоўны рэжысёр Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа В. Мазынскі, — на беларускай мове працуюць толькі тры з 15 драматычных тэатраў рэспублікі. А паводле вядомага і ў нас драматурга А. Дударава, тэатр у рэспубліцы калі не ў заняпадзе, дык у надзвычай складаным становішчы. — Глядач адмаўляецца ад нашай працы, — працягваў прамоўца. — Паказчыкі могуць быць і высокія, але ўсе мы ведаем, з якой цяжкасцю, іншым разам сілком білет трапляе да гледача ў рукі.

Дэлегаты з'езда вырашылі заснаваць Саюз тэатральных дзеячоў БССР.

### ЗАДАЧЫ ПРАФСАЮЗАЎ

23-24 студзеня ў Мінску праходзіў XVI з'езд прафсаюзаў Беларусі. У дакладзе старшыні Белсаўпрофа У. Ганчарыка чытаем: — Саветы і камітэты прафсаюзаў рэспублікі ў апошні час настойліва шукаюць формы і метады, якія далі б магчымасць узмацніць уплыў на развіццё эканомікі, выхаванне людзей, на вырашэнне сацыяльных пытанняў.

Як падкрэсліваецца ў дакладзе, дзейнасць прафсаюзаў Беларусі яшчэ не поўнасцю адпавядае патрабаванням часу. Жывая работа з людзьмі па-ранейшаму падмяняецца фармальным прыняццем абавязацельстваў і падвядзеннем вынікаў. — Рэспубліканскаму і абласным саветам, камітэтам прафсаюзаў рэспублікі трэба будзе больш актыўна і мэтанакіравана займацца вывучэннем, пашырэннем і ўкараненнем перадавога вопыту, мабілізацыяй працоўных калектываў на павышэнне тэхнічнага ўзроўню і якасці прадукцыі, — гаварыў У. Ганчарык. Адзначыў ён, што асаблівая роля ў інтэнсіфікацыі вытворчасці належыць прафсаюзным арганізацыям навукова-даследчых і праектна-канструктарскіх устаноў. Другі раздзел даклада азагалоўлены: „Усямерна клапаціцца аб паляпшэнні працы і быту людзей, усталёўваць сацыяльную справядлівасць".

### НОВЫ СТАРШЫНЯ САЮЗА ЖУРНАЛІСТАЎ

24 студзеня адбыўся пленум Саюза журналістаў БССР. У сувязі з выхадам на пенсію А. Тоўсцік быў вызвалены ад абавязкаў старшыні праўлення Саюза журналістаў БССР. Новым старшынёй праўлення стаў І. Макаловіч, рэдактар „Звязды".

### МАЛАДОСЦЬ СТАРАЖЫТНАГА МСЦІСЛАВА

Як паведамляе „Звязда", маладым і святочным выглядае ў гэтыя дні старажытны Мсціслаў, які адзначае сваё 850-годдзе. Гэтаму юбілею быў прысвечаны ўрачысты сход. Мсціслаў па праву называюць беларускім Суздалем, — адзначае газета. — Тут захаваліся багатыя помнікі старадаўнасці. З Мсціслаўшчыны выйшла многа знатных людзей: паплечнік першадрукара Івана Фёдарава Пётр Мсціславец, адзін з заснавальнікаў беларускай літаратуры М. Гарэцкі, аўтар першага слоўніка беларускай мовы І. Насовіч і многія іншыя.

З нагоды юбілею было наладжана тэатралізавана-спартыўнае свята, на якім удзельнікі мясцовай мастацкай самадзейнасці ўзнавілі старонкі гістарычнага мінулага свайго горада. Быў таксама кірмаш і народныя гульні.

### ГАЗІФІКАЦЫЯ ВЁСАК

Прыродны газ прыйшоў на цэнтральную сядзібу калгаса „Перамога" Слонімскага раёна — у вёску Васілевічы. На таннае паліва пераведзена кацельня, якая забяспечвае цяплом жылыя і адміністрацыйныя будынкі, школу. У перспектыве намечана газіфікацыя суседніх вёсак.

### ВІНШУЕМ!

За вялікі ўклад у развіццё сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды рэспублікі, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў ганаровае званне заслужанага работніка культуры Беларускай ССР Аляксандру Богушу — рэдактару „Гродненской правды".

### КАМП'ЮТЭРЫ-МАДЭЛЬЕРЫ

Звыш сотні каманд аператара здольны прымаць новыя вязальныя машыны, устаноўка якіх завершана ў цэхах Жлобінскага вытворчага аб'яднання штучнага футра. Яны аснашчаны камп'ютэрамі, дысплеямі, мікрапрацэсарамі. Цяпер увод рысунка ажыццяўляецца з дапамогай электронікі, што не толькі расшырыла асартымент жакардавага футра, але і значна павысіла яго якасць, спажывецкія ўласцівасці. Калі старыя машыны да гэтага часу абслугоўваюць два чалавекі — вязальшчык і памочнік майстра, то на новых з поспехам спраўляецца адзін аператар.




### СУД НАД МАФІЯЙ

З лютага мінулага года сталіца Сіцыліі Палерма нагадвае горад на асадным становішчы. Узмоцненыя патрулі карабінераў, асабліва ў кварталах, якія прылягаюць да турмы „Учардоне", бронетранспарцёры на скрыжаваннях, верталёты, якія час ад часу завісаюць у паветры.

Калі адкрыўся гэты першы ў гісторыі Італьянскай Рэспублікі максі-працэс над мафіяй (перад судом паўстала больш чатырохсот мафіёзі), нават самыя асцярожныя эксперты меркавалі, што правасуддзю спатрэбіцца прыкладна год для таго, каб нанесці злачыннаму сіндыкату першы адчувальны ўдар. І для гэтага, здавалася, былі падставы: па-першае, паліцыі ўдалося атрымаць паказанні ад двух босаў палермскай мафіі С. Канторна і І. Бушэты, якія „раскаяліся", і, па-другое, у „зале-бункеры" былі сабраны многія „тузы" злачыннага сіндыката, аб арышце якіх доўгія гады беспаспяхова марыла італьянская Феміда. „У нас у руках амаль усе верхаводы мафіі, — з аптымізмам гаварыў у пачатку працэсу намеснік палермскага пракурора Шакітана, — і гэта дае працэсу вялікія шанцы на поспех".

І вось з дня пачатку працэсу прайшоў ужо год, а яго арганізатары пакуль што не могуць пахваліцца практычна ніякімі поспехамі. Максі-працэс праходзіць у пераадольванні бясконцых складанасцей.

Галоўную бітву з арганізатарамі працэсу мафіёзі разгарнулі ў самой „зале-бункеры", робячы стаўку на максімальнае зацягванне судовага разбору. На жаль, у практыцы італьянскіх судоў не рэдкія выпадкі, калі важнейшыя справы ідуць гадамі і нават дзесяцігоддзямі, як, напрыклад, суд над арганізатарамі выбуху ў Міланскім сельскагаспадарчым банку ў 1969 годзе, віноўнікаў якога італьянская юстыцыя не змагла пакараць да гэтага часу.

На першых жа слуханнях у Палерма падсудныя пачалі груба сімуляваць эпілептычныя прыпадкі, а зусім нядаўна іх абаронцы правялі адкрыта правакацыйны дэмарш, запатрабаваўшы ў адпаведнасці з адным з артыкулаў італьянскага заканадаўства зачытаць усе дакументы, якія датычаць працэсу: чытанне 700 тысяч старонак розных дакументаў, накопленых максі-працэсам, заняло б больш трох гадоў.

Юрысты, якія за шчодрыя ганарары кансультуюць мафіёзі, лічаць, што чым даўжэй будзе цягнуцца судовы разбор, тым больш будзе прывыкаць да яго публіка і тым больш часу з'явіцца ў мафіі, каб апрацаваць у патрэбным ёй духу „сваіх" людзей, якія ёсць у вышэйшых эшалонах улады і ў судовых органах.

Цяпер эксперты сцвярджаюць, што максі-працэс зойме не менш як паўтара года, а можа зацягнуцца і на дванаццаць чатыры месяцы.

(ак)

# З учора ў заўтра



Помнік савецкім салдатам у Дубічах-Царкоўных.

Фота В. Рудчыка.

Ужо ў вёсцы Грабавец людзі пахваліліся, што ў Дубічах-Царкоўных, сядзібе гміны, будуецца вялікі і прыгожы Дом культуры. Дубіцкая гміна параўнальна маладая і самі Дубічы ўсё яшчэ фарміруюцца як акрэслены тэрытарыяльны цэнтр. Можа, таму ўся гміна цікавіцца тым, што там робіцца, што новага будуецца. Хочацца людзям, каб гміна іх расла, і самі стараюцца. Кожнае здарэнне, кожнае дасягненне паднімае ранг усяе гміны. Так было з помнікам савецкім салдатам у Дубічах-Царкоўных, так было з басейнам на рацэ Арлянцы, так было з сучаснай ветэрынарнай лячэбніцай, так ёсць і з Домам культуры.

Яшчэ дагэтуль у нас увогуле цяжка гаварыць пра тое, што гэта гмінная культура. І тым больш цяжка пра яе гаварыць, паколькі база культуры ў гмінах або слабая, або ўвогуле яе няма.

Па-мойму, гміннае начальства, якое хоча і будуе, нягледзячы на цяжкасці і „важнейшыя гаспадарчыя справы", дамы культуры і святліцы, робіць добра, бо такім чынам кладзе падрубы для росту актыўнага, свядомага і творчага жыцця людзей.

Дом культуры ў Дубічах-Царкоўных дагэтуль — гэта была раміза, пабудаваная ў час масавага будаўніцтва такіх аб'ектаў у 50-60 гады. Была пры рамізе вызначана халодная зала, якая называлася найперш святліцай, потым клубам і нарэшце гмінным асяродкам культуры. Але і гэтая раміза-святліца дажылася да таго, што трэба было рабіць яе капітальны рамонт або развaліць Сакратар партыі, старшыня гміннай рады нарадовай і начальнік гміны паставілі справу на сесіі. Рашылі супольна стары будынак „адаптаваць і мадэрнізаваць". Частку грошай на гэта атрымалі ад ПЗУ, частку даў аддзел культуры Ваяводскай управы, праект танна зрабіла рамесніцкая спулдзельня ў Гайнаўцы. Уся пабудова запланавалася на два гады. Пачалася ў 1985, закончыцца ў бягучым. Хочуць адкрыць аб'ект на 22 ліпеня.

У новым Доме культуры будуць: бібліятэка, кіно, зал для сходаў і сустрэч, кабінеты для фатаграфіі і пластыкі, гмінны беларускі музей з аддзелам рэвалюцыйных традыцый. Зацікавіла нас апошняя прапанова. Справа ў тым, што ўся Дубіцкая гміна населена беларусамі. І ўсе праяўленні творчай дзейнасці людзей маюць тут беларускі характар. Гэта беларускія людзі змяняюць тут аблічча жыцця. І справядліва рашылі яны, што ўсе гэтыя перамены з учарашняга на заўтрашняе, гэтае жыццё ў руху — трэба пакінуць у сваім музеі на памяць пакаленням. Адносна ж рэвалюцыйнага кутка, то ў гэтым не трэба пераконваць. Вялікія рэвалюцыйныя традыцыі маюць гэтыя беларускія вёскі і вялікія заслугі ў барацьбе і станаўленні народнай улады.

Нездарма людзі ў Дубічах паставілі помнік савецкім салдатам. І паставілі яго самі. Ані адна дзяржаўная залатоўка не пайшла на яго. У гмінным архіве ляжаць спіскі ахвярадаўцаў з усяе гміны. Плацілі і па тысячы злотых, і па дзесяць. Але не было такога, які б не даў нічога. А з сабраных людзьмі грошай 80 тысяч зл., якія засталіся ад помніка, былі перададзены ў фонд дапамогі школе. Вось якія тут людзі!

Дубіцкая гміна засароміла многіх, узводзячы свой скромны, але сардэчны помнік тым, якія аддалі жыццё, каб жыццё на гэтых землях існавала. Будуюць у нас помнікі розныя, але дубіцкі помнік — гэта сапраўдны народны помнік. І дубіцкі салдат на помніку спявае адвечную песню пра жыццё, якое ён падараваў. Станьце і паслухайце!..

**Вера Леўчук**



Вялікі прыгожы Дом культуры будуецца ў Дубічах-Царкоўных.

Фота Я. Чэрнякевіч.

## УВАГА, СТУДЭНТЫ-БЕЛАРУСЫ!

У лістападзе 1981 г. у памяшканні ГП БГКТ у Беластоку адбыўся злёт беларускіх студэнтаў з многіх вышэйшых школ. Пастановы, якія былі прыняты на той сустрэчы, павінны былі вызначаць напрамак развіцця нашага руху. Аднак з розных прычын яны не ажыццяўляюцца. За пяць гадоў шмат змянілася. Рух наш набыў прававыя формы (існуюць тры Рады культуры, выдаецца часопіс), а за гэтым ідзе, на жаль, абюракрачванне. Каб эліміначаваць абмярцвенне і надаць руху больш жывое аблічча, трэба шмат змяніць. Аб гэтых зменах павінны пагаварыць мы ўсе, сабраўшыся пры супольным стале, пакінуўшы ўсе міжусобныя спрэчкі.

Варшаўская Рада культуры на сваім сходзе 15 снежня 1986 г. прыняла пастанову аб скліканні з'езда, які фактычна быў бы Другім кангрэсам беларускага студэнцтва ў Народнай Польшчы. Арганізацыйны камітэт з'езда вызначыў яго тэрмін на 27-29 сакавіка, а месца — Бельск-Падляшскі. Дэбаты з'езда будуць праходзіць у суботу і нядзелю ў Бельскім доме культуры.

Прыехаўшыя ў пятніцу вечарам няхай накіроўваюцца ў клуб БГКТ (вул. Міцкевіча 50/54). Усім прыезджым гарантуем начлегі (хто мае магчымасць, няхай возьме з сабою спальны мяшок).

Наш кангрэс будзе праводзіцца пры адкрытых дзвярах. Запрашаем на яго школьную і працуючую моладзь! У дэбатах можа прыняць удзел кожны, хто захоча. Права галасавання будуць мець выключна тыя, якія раней атрымаюць мандаты (толькі студэнты).

Больш падрабязныя інфармацыі можна атрымаць:

— у Варшаве: клуб БГКТ, вул. Сенаторская 8, тэл. 260-286;

— у Беластоку: Дом студэнта пры вул. Кракаўскай 9а, пакой 421, тэл. 227-46;

— у рэдакцыі „Нівы": вул. Весялоўскага 1, тэл. 210-33;

— у Бельску-Падляшскім: клуб БГКТ, вул. Міцкевіча 50/54, тэл. 25-18. кірункавы Бельска з Беластока — 057.

### ПРАГРАМА КАНГРЭСА

**пятніца — 27.03.87**

Прыбыўшыя могуць сустрэцца а 19-ай гадзіне ў бельскім клубе БГКТ з дзеячамі Бельскага аддзела БГКТ і рэдакцыяй „Сустрэч".

**субота — 28.03.87**

10.30 — Адкрыццё з'езда і выдача з'ездаўскіх мандатаў (білетаў).

11.00-15.00 — Дэбаты, якія пачнуцца праграмным дакладам арганізацыйнага камітэта з'езда.

15.00-16.30 — Перапынак.

16.30-18.45 — Працяг дэбатаў.

19.00 — Канцэрт бельскіх беларускіх калектываў.

**нядзеля — 29.3.87**

9.00-13.00 — Дэбаты і прыняццё канчатковых пастаноў.

13.00-15.00 — Перапынак.

15.00 — Мастацкая частка, у якой выступяць маладыя артысты.

17.00 — Заканчэнне з'езда.

P.S. Могуць быць уведзены некаторыя змены.

### ПРАГРАМНЫЯ ТЭЗІСЫ

1. Абгрунтаванне актывізацыі моладзі пры БГКТ (маладзёжная секцыя), пры ЗСП (Рады культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці) і іншых агульнапольскіх арганізацыях па прынцыпе аўтаноміі.

2. Заснаванне арганізацыйных форм дзейнасці беларускай моладзі, між іншым, у Любліне, Ольштыне, Гданьску.

3. Асуджэнне шкоднай дзейнасці і адмоўных з'яў на працягу апошняга часу.

4. Пашырэнне абсягу дагэтуль арганізаваных мерапрыемстваў, увядзенне новых форм, напрыклад: святкаванне гістарычных гадавін, афіцыйнае ўшаноўванне памяці нашых славутых продкаў, арганізаванне рэгулярных навуковых сесій, прысвечаных беларускай праблематыцы, арганізаванне баляў беларускіх студэнтаў, Купалля і г.д., замежныя лагеры і экскурсіі, асабліва ў БССР

5. Пашырэнне выдавецкай дзейнасці. Азнаямленне польскага чытача з нашымі праблемамі.

6. Стварэнне ўласнага фінансавага фонду.

**Арганізацыйны камітэт**

# У МАСТАЦТВЕ МНОГА ДАРОГ

12 студзеня 1987 года ў варшаўскай галерэі „Тэст" адбыўся вернісаж выстаўкі карцін Міколы Давідзюка. М. Давідзюк — беларус, нарадзіўся ён на Беласточчыне. Вучыўся ў Вышэйшай школе мастацтва ў Лодзі. Там таксама сёння і працуе выкладчыкам. М. Давідзюк дагэтуль наладзіў пяць паасобных выставак сваіх карцін у краіне, прымаў таксама ўдзел у шматлікіх выстаўках супольна з іншымі мастакамі, у тым за мяжой.

М. Давідзюк ужо не малады чалавек, ён у поўным росквіце творчых сіл. Мастак, які аваладаў формаю, акрэсліў свой стыль. Ён прайшоў ужо значную частку свайго творчага шляху і можа азірнуцца назад. Як мне здаецца, адчувае ўжо больш расчаравання, чым надзеі на будучыню. Раблю гэты вывад, зусім не заглядаючы Давідзюку ў метрыку. Для мяне важны не год яго нараджэння, а тое, што пабачыў я ў галерэі.

Творчасць М. Давідзюка вельмі інтэлектуальная, поўная намёкаў і выразных сімвалаў. Несумненна, яна кранае гледача, прымушае да аналізу. Значэнне карцін трэба расшыфраваць самому, што не заўсёды лёгка, але развязка аказваецца ясная і адназначна акрэсленая. Для мяне занадта адназначная. Складаная структура, якую аўтар будуе з такім напружаннем, разбіваецца пры недахопе часта мастацкіх сродкаў. Постаці, з поўнымі выразу вачыма (яны быццам узяты з іконапісу), з выразным лінейным абрысам. Лінія называецца, зрэшты, мастаком зусім даслоўна (дрот, шнурок) — вельмі цікавы і ўдалы матыў. Аднак, калі аўтар сутыкнецца з колерам і плямай, тады пачынае мяне расчароўваць: плоскія, цёмныя фоны акцэнтуюць моцныя плямы глыбокага блакіту і інтэнсіўнай чырвані на гладкай, бліскучай фактуры. Яны вельмі экспрэсіўныя, але іх экспрэсія разбівае структуру карціны. Гэта самы слабы аспект творчасці Давідзюка — па-мойму, аспект самы важны. Але я адчуваю, што мой падыход і падыход мастака да гэтых спраў цалкам розныя. Што ж, у мастацтве многа розных дарог.

Як не глядзець, выстаўку ўсё ж такі варта было пабачыць, а хто не мог гэтага зрабіць, можа пазнаёміцца з добрым яе каталогам, выдадзеным сталічным бюро мастацкіх выставак.

**В. Сельвесюк**

## ВЫЙГРАЛІ ПРАДШКОЛЛЕ

Гайнаўка ўжо каторы год прымае ўдзел у конкурсах на найбольш гаспадарны горад і ўвесь час займае добрыя месцы, а падрад нават другія. За атрыманыя ўзнагароды будзе новае прадшколле. Горад жа развіваецца, у ім дзяцей усё больш, прадшколле вельмі патрэбнае.

**Э. Вайсковіч**

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### „ПЕРАЖОВІНЫ“

Апошні акт вясельнага спектаклю — гэта „перажовіны“. У некаторых раёнах усходняй Беласточчыны называецца гэты акт „перапоем“ або „падвясёлкам“. У беларускай народнай абраднасці выступаюць дзве катэгорыі „перажовін“. Адны адбываюцца ў чацвер у доме маладых сужонкаў, гэта значыць, у сям'і бацькоў маладога, другія — у суботу ў доме бацькоў маладой. Трэба агаварыцца, што ў некаторых вёсках выступаюць пэўныя, мала істотныя, адхіленні ад гэтых тэрмінаў.

Назва „перажовіны“ (у польскай мове — popłuczyny) дасканала перадае сутнасць абраду. Заканчваў ён некалькітыднёвы перыяд вясельных урачыстасцей. Амаль усе папярэднія акты заключалі ў сабе элементы святочнасці, пафаснасці, надзеі і радасці. Ужо першыя дні знаходжання маладой жанчыны ў хаце маладога высвятлялі калі не ўсё, дык многае. Ведала яна ўжо, які сапраўдны стан сям'і яе мужа, колькі ў яго кароў і іншай жывёлы, які прыблізна характар свякрухі і якія запасы знаходзяцца ў каморы ці свіране, якія вымогі ставяцца ёй як новаму члену сям'і. Наогул усё гэта вельмі значна адрознівалася ад той карціны, якую рысаваў маршалак у часе сватоў і якую прадстаўлялі бацькі маладога падчас „розглядаў“.

Калі ў часе фальклорных экспедыцый даводзілася гаварыць з жанчынамі, дык амаль усе яны выстаўлялі вельмі адмоўныя апініі свякрухам. Гаварылі, што практычна ўсе свякрухі імкнуліся да захавання поўнай улады над новым членам сям'і — нявесткай. Свякрухі лічылі, што пачынаючы ад першага дня пасля вяселля, трэба нявесткам накідваць самую жорсткую дысцыпліну і перакананне, што маладая жанчына не можа ў найменшай ступені разлічваць на кіруючую ролю ў новым доме. Такі падыход да справы выявіўся вельмі пераканаўча ў словах жыхаркі вёскі Семяноўка Кацярыны Буйко.

„Сама я вельмі многа выцерпела ад свакрухі і мушу прызнацца, што калі я ўжэ стала свакрухаю, то таксамо цвэрдо трымала своіх невесток. А як жэ ж інакш? Выпусці толькі лейцы з рук, то ваны табе хутко на голаў сядут. У мане было двох сыноў. Я іх пажаніла, а да гэтого яшчэ мела незамужніх дочок кілька. То я ж мусіла так рабіць, каб для гэтых дочок і пасаг сабраць і добрэ іх адзець. Ат, што там гаварыць. Вано ж, відомо, што дочкі мне — родна кроў, а невесткі — чужая, то відомо, што я дбала пра дочкі, а не пра невестку. Ну, з ежаю таксамо было. У многіх хатах то было так, што свакруха усе харчы пад замком трымала: і мясо, і сланіну, і нават хлеб. І толькі вона выдавала яго ўсім. То вано відомо, што сваму дзіцяці давала і больш і лепшого, а невесткі, от, кіне, як сабацы, абы-што.

Ой, галадалі гэты невесткі, бывало, галадалі. Маладая, здарова, напрацуецца, есці хочэцца, хочэцца! А тут у свакрухі ўсё на замку, замка не адкусіш! А таж тамака яксе радзілі. А як жэ, калі пападалася баявая невестка, то патрапіла і свакруху прымусіць, каб большы кусок дала. А як жэ? А найбольш то ўжэ, значыцца, тады, калі добры пасаг прывазла. То такое, бывало, возьмэ і скажэ: „Ну, калі так, то і я ўсё свае пад замок палажу і вы да маго таксамо не лезьце. Мне мама і тато далі много і яшчэ дадут, як спатрэбіцца. Але як так, то так: я да вашого добра дзела ні маю, а вы да маго ні маеце“. Ну і што ты думаеш? Такой мусіш уступіць. А калі вана была спакойна і патульна, то, відомо, што яе, біднягу, як маглі, так і крыўдзілі. От, я табе сказала толькі тое, што сама досна ведала, а лгаці то я ні хочу“.

У „перажовінах“ прымалі ўдзел бацькі маладой і маладога, маладыя сужонкі і найбліжэйшая радня. Па колькасці асоб склад „перажовін“ быў у некалькі разоў меншы, чым склад вяселля.

Па сутнасці ў чацвер маладая жанчына, прымаючы гасцей у доме мужа, не мела замнога магчымасцей для таго, каб прыехаўшым бацькам і радні расказаць усю праўду аб сваім лёсе. Затое такая магчымасць была ў суботу ў доме бацькоў маладой. Здараліся выпадкі, што маладая жанчына не хацела пакідаць хаты бацькоў і вяртацца з мужам у яго хату. Аднак у такой сітуацыі, баючыся кампраметацыі, усе, як маглі, так пераконвалі яе ў неабходнасці вярнуцца. Пры гэтым, аднак, і яе мужу і свякрусе не шкадавалі крытычных заўваг і дамагаліся паляпшэння варункаў бытавання маладой жанчыны. Практычна такога тыпу размовы не мелі ніякага значэння, бо маладая жанчына знаходзілася пад новай сямейнай звычаёвай юрысдыкцыяй. Кожная з прысутных старэйшых жанчын паціху пераконвала маладую, што яны таксама цярпелі і што на гэта няма ніякай рады.

Аб атмасферы „перажовін“ можна, між іншым, меркаваць па песні, якая шырока распаўсюджана на Гайнаўшчыне і Бельшчыне.

Я познэнько лягу  
І раненько ўстану,  
Снэданэчко навару.  
Самі сядут есті,  
Але мэнэ нэ клічут.  
Я і по воду пойду;  
Вэдэрцо вэліке,  
Водіця далеко.  
Я і хутэнько нэ прыду,  
То мэнэ обсудят,  
Мэнэ обгудят.  
Што я кепско навару.  
Ой, выйду я выйду  
За тісовы ворота,  
На гору крутую.  
Куды нэ крунуся,  
Куды нэ повэрнуся —  
Усэ чужая сторона.  
Покотісе, пэрстэнь,  
Пэрстэнь золотэнькі,  
До матулі, до мое.  
Ой, стоіт, стоіт  
Моя родна маті  
За плечыма ў мэнэ  
— Колі так вэліке,  
Дітя, горэ маеш,  
То вэрнісэ до мэнэ.

**А. Баршчэўскі**



## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Удавіцай пражыла я ўжо дзесяць гадоў і падраслі ў мяне два мае сыночкі-дубкі. Асабліва прыстойным хлопцам вырас старэйшы — Дзімка. Цяжка мне было іх гадаваць, знікуль ніякай дапамогі, а я адна білася часамі, як рыба аб лёд. Адукацыі не мела, дык прыбірала ў адной установе, але ў кожную вольную хвілінку бегла да людзей — то вокны памыла, то ў хаце прыбрала, то апекавалася паралізаванай жанчынай. Цяжка было, ды і дзеці былі не заўсёды дагледжаныя так як трэба. Але што рабіць, кожны грош быў патрэбны. Калі Дзімку было 17 год, я злавіла яго першы раз з дзяўчынай у ложку. Неспадзявана я вярнулася дахаты раней, голая дзяўчына ляжала на Дзімку, а я не вытрымала і дала ёй па голай задніцы. Сын вельмі ўзлаваўся на мяне, не адзываўся паўгода. Неяк замкнуўся ў сабе, але з той сваёй першай дзяўчынай больш не сустракаўся. Затое знайшоў замужнюю, старэйшую за яго гадоў на дзесяць. Мела яна, праўда, двое дзяцей, але муж быў на заробках за мяжой. Так што Дзімка без клопатаў начаваў у яе. Працягвалася гэта гады два, да таго часу, пакуль не вярнуўся яе муж. Нарэшце я супакоілася. Дзімка мой ізноў вярнуўся на ўзлонне нашай невялічкай сям'і, сустракаючыся ад часу да часу то з адной, то з другой дзяўчынай. Ужо яму 24 гады, і яго лёс мяне вельмі непакоіць. Ну, хто за яго пойдзе, ды і што з таго, што ён прыстойны... Прыстойных хлопцаў шмат, а сёння не так, як за маёй маладосці, калі людзі жаніліся па каханні. Сёння дзяўчаткі аглядаюцца, каб выйсці за багатага, з аўтамабілем, а яшчэ лепш з кватэрай ці з вілай. А што я магу даць майму сыну? Дала яму паматуральную прафесійную школу і някепскае адзенне, не галодны — вось і ўсё, што я магу яму даць. Праўда, працуе, але зарабляе няшмат. Ды і, зрэшты, я яго грошай не бачу. То на папяросы трэба, то з дзяўчынай у кіно, а часам і што-небудзь купіць сабе. Сэрцайка, парай, як пакіраваць сынам, каб выбраў сабе добрую жонку?

**Крысціна**

Крысціна! Думаю, што ў гэтым напрамку не трэба рабіць нічога асаблівага. Ты выхоўваеш яго някепска паводле сваіх магчымасцей. І цяжка спадзявацца, што зможаш зацікавіць яго цяпер нейкімі кніжкамі ці навукаю. Меў ён, відаць, замнога свабоднага часу і часта прабываў без бацькоўскага дагляду, адсюль яго такое ранняе зацікаўленне палавымі зносінамі з жанчынамі. Калі мае прафесійную адукацыю, то павінен прынамсі ўглыбіцца ў прафесію, якую ён цяпер выконвае. Можа, гэта дасць яму таксама сатысфакцыю, можа стане майстрам, будзе добра зарабляць. Няпраўда, Крысціна, што дзяўчаты цяпер разглядаюцца толькі за хлопцамі з аўтамабілямі ды кватэрай. Праўда, 20 ці 30 гадоў таму назад людзі намнога менш думалі пра матэрыяльны бок будучага сямейнага жыцця, але і сёння свет клінам на гэтым не сыходзіцца. Паглянь, колькі навокал маладых сямей шукае кватэры, а пра аўтамабіль, пэўна, яны яшчэ і не мараць. Значыць, пажаніліся з кахання. Думаю проста, што Дзімка яшчэ не трапіў на вартасную дзяўчыну, якая падыходзіла б яму, як кажуць, „па ўсім стацціям“, ды каб не была замужняя. А калі ён прыстойны, то яшчэ не адна паляціць на яго, нягледзячы на тое, што давядзецца ёй жыць з працы ўласных рук.

**Сэрцайка**

## СОННІК

60

**Лапа** — дачыненне з некультурнымі людзьмі, прасцякамі.  
**Лапата** — няўдзячная праца; працаваць ёю — сяброўская дапамога табе.  
**Ласка** — добрая звестка.  
**Ласо** (вяроўка для лоўлі дзікіх коней і іншых жывёл) — страчаная свабода.  
**Ласось** — знайсці каштоўную рэч; есці — твае стараннi ўзнагароджаны.  
**Ластаўка** вясёлая і рухлівая — вясёлая навіна, шчасце ў каханні; ластаўчына гняздо — сямейнае шчасце; даход.  
**Ласункі**, саладосці — любоўныя авантуры.  
**Лата** — безвыніковыя, марныя стараннi; латаць што-небудзь — дробязі перашкаджаюць табе ў жыцці.  
**Латарэя** — няшкодныя спакусы; латарэйны білет (лёс) — няпэўная будучыня; купляць — страты; знайсці яго — значны выйгрыш.  
**Лаўка** — падманныя абяцанні; з дзярна — любоўная прыгода.  
**Лахманы** — выратаванне з вялікіх клопатаў і непрыемнасцей; насіць — трапіш у беднасць і нэндзу; прадаваць іх — у хаце неспадзяванка; купляць — падманная грашовая справа; сціраць іх — ты — ашчадны чалавек.  
**Лебедзь** — шчаслівае вяртанне з далёкага падарожжа.  
**Ледзяшы** (ледзяныя соплі) — пахаладанне ў каханні.  
**Лейка** — развагжлівасць не пашкодзіць.  
**Лекар** — добрая надзея; быць ім — спыні свае непрыстойныя паводзіны.  
**Лепкае**, клейкае рэчыва — засада, падвох.  
**Лес** густы і цёмны — клопаты, перажыванні; свежы, зялёны — доўгае прыемнае жыццё; гарыць — радаснае здарэнне; пушча — неспадзяваная спадчына; сячы лес — дойдзеш да багацця.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Пад белымі бярозамі на школьным панадворку ў вёспы Грабавец (гм. Дубічы-Царк.) стаіць калодзеж. Тамара Дзмітрук і Тамара Павасюк, вуч. VIII кл., выцягнулі поўнае вядро вады.
— Пачастуйся, госпю, вада спюдзёная і чыстая — здаровая, разагрэе, развярушыць, — усміхаюцца Тамаркі.

Максім Танк

### ЗІМОВЫЯ ПРЫГОДЫ

Гончых зграя гулка галіць.
Пачалося паляванне.
Пад ялінай шэры заяц
Плача, піша завяшчанне:
„Як загіну — перадайце
Хвосцік мой маленькім зайцам,
Каб слядоў не пакідалі,
Снежным пылам замяталі.
Вушы — жонацы, каб чула
Ўсе трывогі, шумы-гулы.
Ёй — і лапкі, каб было чым
Удаве ўперці вочы.
Ну, а шкурку — на каўнерык
Лесніковай ўнучцы Веры,
Што ўсіх шаракоў любіла
І гароднінай карміла...“
Глянуў заяц і здзівіўся —
Раптам віхрам снег узвіўся.
Снег — ратунак ад напасці,
Паляўнічага няшчасця.
Аж вачам сваім не верыць,
Пад ялінкай скача шэры,
А снег болей, болей, болей
Засыпае ў чыстым полі
Гончых брэх, ражкоў ігранне,
Зайца след і завяшчанне.



Кастусь Кірэенка

### Бацькавы ўзнагароды

(фрагмент)

Там, пад Масквой, тата атрымаў свой першы медаль „За адвагу“. У адным бai на яго палезлі аж чатыры варожыя танкі, а тата не спалохаўся. Стальныя страшыдлы паўзуць на яго, страляюць з гармат і кулямётаў, а тата — ні з месца. Ужо чорныя фашысцкія танкі з крыжамі перад вачыма гусеніцамі лязгаюць, — а ён і не скрануўся. Бо за ім жа — Масква, нельга пусціць туды ворага... Адзін танк у гэтым бai Алесеў тата спаліў, а другі — надбіў гранатамі. Астатнія павярнулі наўцёк, бо не ведалі, што Алесеў тата моцна паранены ў абедзве рукі і ў грудзі і ўжо не можа больш змагацца... Чужынцы думалі, што яны згараць перад неадольным татавым акопам...

Побач з медалём „За адвагу“ Алесь прымацоўвае ордэн Славы. Яго ўручылі тату пасля пераправы цераз Дняпро, калі ўжо вызвалялі беларускую зямлю. Здарылася гэта каля аднае вёскі, дзе варожыя гарматы не давалі нашым байцам рухацца далей. Фашысты няспынна засыпалі снарадамі дарогу да вёскі. А дарога тая ішла праз балота, і нельга было ні абмінуць яе, ні куды-небудзь з яе збочыць... Дык Алесеў тата яшчэ з пяццю байцамі добраахвотна ўзяліся знайсці і знішчыць варожых гарматчыкаў. Па балоце, часам па грудзі ў вадзе, тата з байцамі выйшлі да вёскі, нечакана наляцелі на варожыя батарэі і сваімі аўтаматамі пакасілі гітлераўцаў. Гарматы ворага замоўклі, нашы воіны вызвалілі вёску і нястрымна рынуліся далей на захад.

У бai з нямецкімі артылерыстамі Алесеў тата, праўда, зноў быў паранены — у левае плячо. Але не так цяжка. Ён не згадзіўся ісці ў шпіталь, папрасіўся застацца ў страі. Генерал, які ў той жа дзень уручыў яму ордэн Славы, загадаў, каб просьбу Алесевага таты задаволілі і пакінулі яго ў часці. І Алесеў тата зноў пайшоў у бой, вызваляючы родную Беларусь...

Прымацаваўшы ўслед за ордэнам Славы яшчэ адзін ордэн Чырвонай Зоркі і цэлую палоску медалёў, Алесь доўга разглядвае сябе ў люстэрку. Яму падабаецца, як прыгожа мяняюцца адценні рознакаляровых стужак ордэнаў і медалёў, як ціха звіняць узнагароды, нібы перамаўляюцца пра мінулыя бai. І так нясцерпна хочацца Алесю вось у такім выглядзе, з усімі ўзнагародамі, выбегчы на вуліцу.

Станіслаў Шушкевіч

### НАШЫ СЯБРЫ

Снегіры, сінічкі,
Наце вам пшанічкі,
Крупак, крошак хлеба!
Вам жа мала трэба!
Шчэ, любыя сябры!
Не хавайцеся ў бары,
А жывіце ў двары
Да вясеннае пары.
Вось для вас кармушкі,
Птушкі-шчабятушкі,
Нашы весялушкі!



Міраслаў Панфілюк з Гародчыны — лаўрэат сёлетняга дэкламатарскага конкурсу беларускай прозы і паэзіі. Ён атрымаў узнагароду „Зоркі“. Фота Я. Чэрнякевіч.

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

Падручнік беларускай мовы для пятага класа
Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук

## МУЗЫКА-ЧАРАДЗЕЙ
### (Беларуская народная казка)

Жыў некалі на свеце адзін музыка. Пачаў ён іграць яшчэ змалку. Бывала, пасучы валоў, зробіць з лазы дудачку ды як зайграе, дык валы скубсці траву перастануць — натапыраць вушы і слухаюць. У лесе птушкі прыціхнуць, нават жабы ў балоце не крумкаюць.

Паедзе з начлегам — там весела; хлопцы і дзяўчаты пяюць, жартуюць — вядома, маладосць. А ноч цёплая, аж парыць. Люба-та.

Але вось музыка возьме ды зайграе на сваёй дудачцы. Усе — і хлопцы і дзяўчаты — адразу суцішацца. І кожнаму ў гэты час здаецца, што быццам нейкая слодыч улілася ў сэрца, нейкая невядомая сіла падхапіла яго і нясе ўсё ўгору ды ўгору — у чыстае сіняе неба, да ясных зорак.

Сядзяць начлежнікі, не зварухнуцца, забыліся, што спрацаваныя за дзень рукі і ногі баляць, што голад даймае. Сядзяць і слухаюць. І хочацца сядзець гэтак усё жыццё і слухаць ігру музыкі.

Змоўкне дудачка. Але ніхто не адважыцца і з месца крануцца, каб не спужаць таго чароўнага голасу, што рассыпаецца водгуллем па лесе, па дуброве ды ўзнімаецца ў самае неба.

Зноў зайграе дудачка, ужо жаласліва. І тут такі сум усіх ахопіць.

Ідуць позна дамоў з паншчыны мужчыны і жанчыны, пачуюць музыку, спыняцца, заслухаюцца. Здаецца, так усё іхняе жыццё перад вачыма і стаіць — бядота ды гарота, ліхі пан ды цівун з прыганятымі. І такі іх жаль, што не толькі жанчыны, а і мужчыны, старыя, барадатыя, плачуць, як па нябожчыку, або нібы сынкоў у салдаты праводзяць.

Але вось музыка зайграе вясёлае. Пакідаюць жанчыны і мужчыны косы, граблі, вілы, возьмуцца і давай скакаць.

Скачуць людзі, скачуць коні, скачуць дрэвы ў дуброве, скачуць зоркі, скачуць хмаркі — усё скача і смяецца.

Такі быў той музыка-чарадзей: што захоча, тое з сэрцам зробіць. Падрос музыка, зрабіў сабе скрыпачку ды пайшоў у свет. Куды прыйдзе — пайграе, за гэта яго накормяць, напояць, як самага лепшага госця, і яшчэ на дарогу дадуць.

Доўга хадзіў так па свеце музыка, весяліў добрых людзей, а ліхім панам без нажа сэрца рэзаў: бо куды ён ні прыйдзе, там людзі перастаюць паноў слухаць. Стаў ён ім упоперак дарогі, як костка ў горле.

Надумаліся паны са свету яго звесці. Пачалі падгаворваць аднаго, другога, каб музыку забіў ці ўтапіў. Але не знайшлося ахвотніка: простыя людзі любілі музыку, а прыганятыя баяліся: думалі, што ён чараўнік.

Згаварыліся тады паны з чарцямі.

Ідзе аднаго разу музыка лесам, а чэрці наслалі на яго дванаццаць галодных ваўкоў. Заступілі яны музыку дарогу, стаяць, зубамі ляскаюць, вочы, як распаленыя вугалі, гараць.

Няма ў музыкі нічога ў руках, толькі пад пахаю скрыпка ў мяшэчку. „Ну, — думае ён, — канец мой прыйшоў".

Дастаў музыка з мяшэчка скрыпку, каб яшчэ раз перад смерцю пайграць, прыхінуўся да дрэва ды і павёў смычком па струнах.

Як жывая, загаварыла скрыпка, пайшоў пошчак па лесе. Замерлі кусты і дрэвы — лістком не варухнуць. А ваўкі, як стаялі з разяўленымі пашчамі, так і скамянелі. Слухаюць і пра голад забыліся.

Перастаў музыка іграць, а ваўкі, як сонныя, у лес пацягнуліся.

Пайшоў музыка далей. Сонейка ўжо за лес закацілася, толькі яшчэ свеціць на самыя верхавінкі, быццам аблівае іх пазалотаю. Ціха, як у вуху. Вельмі харошы вечар.

Сеў музыка на беразе ракі, дастаў з мяшэчка скрыпку і заіграў. І так прыгожа, што заслухаліся і неба, і зямля. А калі ўрэзаў полечку, то ўсё вакол давай скакаць. Зоркі мітусяцца, як зімою мяцеліца, хмаркі плаваюць па небе, а рыба так узгулялася, што рака кіпіць, як вада ў гаршчку.

Не вытрымаў і вадзяны цар — пусціўся ў скокі. Ды так разышоўся, што вада заліла берагі; чэрці напужаліся і павыскаквалі з рачных нетраў. Усе злосныя, зубамі скрыгочуць, а нічога музыку зрабіць не могуць.

Заканчэнне будзе.

## Вясёлы куточак

Падумайце і па гэтым малюнку напішыце вясёлае дасціпнае апавяданне, ужываючы наступныя пяць слоў: бабуля, унучак, лета, пастух, вона.

Лепшыя апавяданні надрукуем у „Зорцы".



## Паглыбляй свае веды

### ГІГАНТ ПАДНЕБНАЙ ТЭХНІКІ

Гіганцкі транспартны самалёт Ан-124, рэактыўны лайнер, названы імем казачнага рускага багатыра „Руслан". Ён за адзін раз можа перавезці 150 тон грузу без пасадкі на адлегласць 4500 кіламетраў. Размах яго крылаў 70 метраў.

Гэты самалёт запраектавалі і збудавалі ў канструктарскім бюро Антонава. Самалёт прадукуецца ў двух месцах. Крылы робяцца на Ташкенцкім авіяцыйным заводзе і трэба іх перавозіць за 3 тысячы кіламетраў у еўрапейскую частку СССР. Па зямлі гэта проста немагчыма — дарога, доўга і небяспечна. Рашылі, што старэйшы брат Ана-124 — Ан-22 (бярэ 60 тон грузу і пралятае без пасадкі 3 тысячы кіламетраў) будзе перавозіць крылы.

Але як? А так, што велізарнае крыло, якое важыць 25 тон, „едзе" на спіне Ан-22 і прыязджае на месца ўсяго за 4 гадзіны.




## Пазнаёмімся

* * *

СССР, 346510, Ростовская обл., г. Шахты-10, пос. Северный, ул. Восточная, 20. Ефимовой Ларисе. 8 клас.

* * *

СССР, 346503, Ростовская обл., г. Шахты-3, ул. Боцмана, 31. Неплюева Майя. 6 клас.

* * *

СССР, 346900, г. Новошахтинск Ростовской обл., ул. Харьковская, 92, кв. 15. Дубинину Николаю. 7 клас.

* * *

СССР, 344064, г. Ростов-на-Дону, ул. Немировича-Данченко, 76/6, кв. 137. Бондаревой Лене. 9 клас.

* * *

СССР, 344097, г. Ростов-на-Дону, пр. 40-летия Победы, д. 310, кв. 39. Вдовенко Наташе и Вдовенко Марине. 9 клас і 5 клас.

## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Я вучуся ў пятым класе. Добра вучуся. Беларускую мову вывучаю ад другога класа. Я напісала апавяданне па карцінцы, што была ў „Зорцы". Вось яно.*

**Нашы сябры**

Хлопчык і дзяўчынка ідуць у школу. Там яны будуць вучыцца. У іх прыгожая і вельмі вялікая школа. Дарога ў школу вядзе цераз парк. Хлопчык і дзяўчынка — гэта брат і сястра. Называюцца Андрэй і Валя. Яны жывуць у Маскве. А Масква — гэта сталіца СССР. Гэта вялікі горад. Дзеці гэтыя добра вучацца. Валя ходзіць у чацверты клас, а Андрэй — у другі. Дзяўчынка займаецца музыкай, а хлопчык спортам.

З прывітаннем
**Аня Хвашчэўская,**
**в. Быстрае, пошта Снежкі.**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Ці разарвецца гэты ланцуг, калі вы пацягнеце яго за канцы?
Увага, што вы знайшлі?
А якую памылку вы бачыце на другім малюнку?


Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

З суседскага агародчыка

## Старыя сябры

„Да чаго ж свет цесны!" — чартыхнуўся пра сябе Савельеў і, расцягнуўшы рот у вымучаную ўсмешку, стаў праціскацца насустрач старому школьнаму сябру, які стаяў у глыбіні аўтобуса.

— Коля! — радасна закрычаў ён. — Ты?!

— Бо-орка? — з цяжкасцю выцягваючы губы ва ўсмешку, Коля збянтэжана падаўся наперад.

„Нумар тэлефона ж трэба даваць", — з яўным незадавальненнем падумаў Савельеў.

„Зараз тэлефон будзе даваць". — падумаў Коля.

„Як жа, так гэта проста я табе яго і даў!" — падбадзёрыўся Савельеў.

„Пазваню я табе, чакай..." — павесялеў Коля.

„Маўчыць! Ну, яўна на тэлефон напрошваецца". — зноў засумаваў Борка.

„Не паспее даць, зараз выходжу", — абнадзеіў сябе Коля.

„Не паспею даць, мабыць, выходзіць", — усміхнуўся Савельеў.

Мікалай выйшаў з аўтобуса і пасяброўску махнуў Барысу.

— Я табе абавязкова пазваню. Борка, друг!

— Абавязкова звані, буду чакаць!

І старыя школьныя сябры весела ўсміхаліся адзін аднаму.

**А. Волкаў, А. Ралько**



Без слоў.

# НІЎКА



### ТЭАТРАЛ

— Ну, як спектакль? — пытаюць старога задрыпанца, які ўпершыню пабываў у тэатры.

— О, цудоўна, цудоўна! — адказвае той. — Але найлепш было ў канцы, калі раздавалі паліто. Мне на адзін нумарок выдалі аж тры...

### СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫЯ

— Куды дзелася прадаўшчыца, якая любіла палапатаць з пакупнікамі?

— Яе перанеслі ў аддзяленне рэкламацый.

### НАШЫ ДЗЕЦІ

Бабуля, убачыўшы Сярожу, жахнулася:

— Ну што мне з табою рабіць! Ты ж выцер штонікамі ўвесь пыл з падлогі!

Сярожа:

— Скажы: „Дзякуй!"

### ДУМАЎ

Жонка вярнулася з працы і заўвіхалася каля пліты. Пачала наліваць боршч.

— О! Усё мяса з'еў, а пра мяне і не падумаў, — сярдзіта сказала да мужа.

— Чаму ж! Я еў мяса ды толькі і думаў, што ты мне скажаш, як з поля вернешся.

### ЦІ ЁСЦЬ ШТО ШУКАЦЬ?

Сусед пытаецца ў суседа:

— Ці праўда, што чалавек павінен шукаць славу толькі да сарака гадоў, а потым яна ўжо сама яго шукае?

— Праўда, калі ёсць што і каму шукаць, — быў адказ.

**С. Паўлаў**

— Усміхніцеся, здымаю.



Ніколі не рабіў памылак: усе справы даручаў намеснікам.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Турыст у Мексіцы пытаецца ў мясцовага жыхара:

— Як вам тут жывецца?

— Дрэнна, вельмі дрэнна. Нічога ў маім агародзе не расце.

— Нават калі пасеяць кукурузу?

— Не, калі пасеяць, тады іншая справа.

*

Двое юнакоў асвойвалі матацыкл і першы раз выехалі на асфальтавую дарогу. З аднаго і другога боку ад іх з ровам праносяцца аўтамабілі. Той, што быў на заднім сядзенні, нервуючыся, пытаецца ў свайго сябра:

— Слухай, Айвар, а ты ўпэўнены, што гэтая белая лінія пасярэдзіне прызначана для матацыклаў?

*

— Пане дырэктар, мая жонка сказала, каб вы мне павысілі зарплату.

— Добра, Джон, спытаю ў сваёй жонкі, ці можам мы гэта зрабіць.

### ПАМЫЛІЎСЯ

Кастусь вырашыў піць толькі дома. Залез у ложак, пад коўдру, выпіў і закусіў. Аднак прачнуўся ўсё-такі ў выцвярэзніку.

— За што мяне сюды? — абурыўся ён. — Дык я выпіў пляшку гарэлкі дома.

— Так, але па другую пляшку вы пайшлі, загарнуўшыся ў коўдру.

З „Весніка Задрыпоніі"

### НОВЫ МАГАЗІН

Распрацаваны новы тыпавы праект магазіна „Тавары штодзённага попыту". У ім прадугледжаны максімум зручнасцей для работнікаў гандлю: кабінет загадчыка размешчаны побач з чорным уваходам, складскія памяшканні знаходзяцца проста пад прылаўкам.

### НОВАЯ ЦЫРУЛЬНЯ

Адкрыта новая фірменная цырульня „Усмешка". Пры выхадзе з яе ўсміхаюцца не толькі наведвальнікі, але і тыя, хто глядзіць на іх.



Цырк, ды і толькі!

### ПРЫМУС

**Байка**

З вяселля невясёлым брыў
дамоў Іван.
І тут сустрэў яго сусед Дзям'ян.
— Здароў, браток, ну,
як гульнуў, прызнайся?
— Ат, лепей не пытайся.
Вяселле — не вяселле, а сумота.
— Што, не было нагам работы?
— Не, што ты, брат,
музыкі добра гралі.
— Дык можа, песень не спявалі?
— Спявалі...
— Можа, выпіць не было чаго!
— Пітва было там мора.
— А закусіць?
— Закускі — горы...
— Дык справа ў чым? —
цябе спытаць я мушу.
— Было усё,
ды не было прымусу.

Я вось к чаму вяду апавяданне:
Так іншы кіраўнік,
Як той Іван, прывык
Нічога не рабіць без указанняў.

**Уладзімір Правасуд**



# Курёзы

### ПА ВОПРАТЦЫ СУСТРАКАЮЦЬ...

Калі мэры французскіх гарадоў удзельнічаюць у розных афіцыяльных мерапрыемствах апранутымі ў касцюм, гальштук і светлую кашулю, яны... парушаюць закон.

Кіраўнікі муніцыпалітэтаў павінны выходзіць у сіне-белым сюртуку, у галаўным уборы з чырвонымі пер'ямі і са шпагай з перламутравым эфесам на баку. Так апісана абавязковая форма мэра ў дэкрэце 1852 года, які ніхто не адмяняў.

З прапановай вярнуцца да такога святочнага ўбрання звярнулася да сваіх 36.433 калег мэр гарадка Ваалан (дэпартамент Эсон) Рэне Дэлатр. На яе думку, гэта дапаможа прынамсі забяспечыць заказамі французскую швейную і тэкстыльную прамысловасць, якая знаходзіцца ў крызісным стане.

Аднак адразу ўзнікла некалькі пытанняў. Па-першае, ці апранаць у мужчынскі касцюм мэраў-жанчын, у тым ліку аўтара прапановы. Па-другое, дзе знайсці ўзор формы 1852 года. Аказалася, што не захавалася ніводнага яе экземпляра, ніводнага адлюстравання. Таму Р. Дэлатр звярнулася з заклікам да французаў пашукаць на гарышчах хоць бы старажытную карцінку „Бацькі горада" ўзору сярэдзіны мінулага стагоддзя.




Знайшоў сваё месца ў жыцці — чакай, пакуль яно звольніцца.